*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 105 (1170)**
Аўторак, 12 чэрвеня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае надвор'е, на значнай частцы тэрыторыі — кароткачасовыя даждж, месцамі навальніцы. Вецер заходні, 7—12 м/с, у асобных раёнах парывы да 15—20. Тэмпература паветра ў Віцебску — +13...+15, Мінску, Магілёве, Гродне — +14...+16, Брэсце — +15...+17, Гомелі — +16...+18.

Надвор'е ў наступныя двое сутак: 13-га месцамі кароткачасовыя даждж, 14-га — пераважна без ападкаў. Вецер заходні, 4—9 м/с. Тэмпература 13-га ўначы +5...+10, удзень +15...+20, 14-га ўначы +3...+8; удзень +17...+20.



**ПУЛЬС**

## Пасяджэнне ініцыятыўнай групы Міхаіла Чыгіра

**10 чэрвеня ў Мінску адбылося пасяджэнне ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра.**

Паводле звестак мандатнай камісіі, у пасяджэнні ініцыятыўнай групы ўзялі ўдзел 317 прадстаўнікоў ад 1056 членаў ініцыятыўных груп з усіх рэгіёнаў Беларусі. У выніку галасавання кіраўніком ініцыятыўнай групы абраны былы прарэктар БДУ Анатоль Паўлаў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Віктар Цярэшчанка хоча збіраць подпісы

**У Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў паступіла заява аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў для вылучэння кандыдатам у прэзідэнты Віктара Цярэшчанкі.**

У складзе ініцыятыўнай групы Цярэшчанкі 6 тысяч 83 чалавекі.

Нагадаем, што, у адпаведнасці з Выбарчым кодэксам, для праверкі правільнасці афармлення дакументаў Цэнтрвыбаркаму адводзіцца 5 дзён. Калі група будзе зарэгістравана, то з моманту рэгістрацыі яна мае права прыступіць да збору подпісаў у падтрымку патэнцыяльнага кандыдата ў прэзідэнты. Для вылучэння прэтэндэнту на пасаду кіраўніка дзяржавы неабходна на працягу месяца сабраць 100 тысяч подпісаў грамадзян.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Грамадскае аб'яднанне БНФ "Адраджэньне" — за Домаша

**Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі павінен прайсці як мага хутчэй: самае позняе — перад рэгістрацыяй у Цэнтрвыбаркаме кандыдатаў у прэзідэнты, але ні ў якім разе не пасля. Такое меркаванне выказаў лідэр грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка падчас чарговага Сойму Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ, які адбыўся ў Мінску ў мінулыя выхадныя.**

Сойм даручыў кіраўніцтву аб'яднання дамагацца правядзення Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі як мага раней. "Кампанія стартавала. Вельмі шмат пастаўлена на карту. І шанцы перамагчы, як ніколі, вялікія," — сказаў Вячорка. Было падкрэслена, што актывісты збіраюць подпісы толькі за аднаго кандыдата. Гэта стала сэнсам заявы, якую прыняў Сойм.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

## НТВ "раскрутит" Синицина и Машерову

**Российские телеканалы получили указание раскручивать промосковских конкурентов Лукашенко на выборах**

Совет безопасности России неофициально решил ограничить присутствие нынешнего президента Беларуси в российском телеэфире при одновременном начале раскрутки двух промосковски настроенных потенциальных конкурентов А.Лукашенко на предстоящих 9 сентября президентских выборах — Леонида Синицына, бывшего главу президентской Администрации, и Наталью Машерову, дочь Петра Машерова.

Совет безопасности РФ решил начать осуществление информационной поддержки этих двух кандидатов посредством НТВ. Как сообщили в этой телекомпании, аналитики Совбеза даже предписали показывать лишь следующие титры: "Леонид Синицын, вице-премьер правительства Белоруссии в 1994—1995 годах" (без слова "бывший" и упоминания о главе администрации) и "Наталья Машерова, депутат парламента Беларуси (без ссылки на непризнанное Национальное собрание), что призвано не смущать оппозиционный электорат.

После предварительной раскрутки на НТВ к полномасштабной информационной кампании в пользу одного из этих двух кандидатов подключатся ОРТ и РТР. На кого именно сделает ставку Кремль, будет решено по итогам официальной регистрации кандидатов. Кроме того, в запасе у аналитической группы российского Совбеза есть и третий приемлемый кандидат из состава "белпятерки", имя которого пока не раскрывают.

В ближайшее время минские корпункты РТР и ОРТ "будут укреплены новыми кадрами" из Москвы, сообщили в Совбезе. На период белорусской предвыборной кампании в Минск будут откомандированы дополнительные съемочные группы.

**Агентство "Ю.С.Ньюс" из Москвы.**

Беларуская мова-ТБМ-наша будучыня

**Беларуская мова — гэта сучасная мова, у якой адлюстравана наша мінулае і сучаснасць, у якой будзе выказана наша будучыня!**

Таварыства беларускай мовы выказвае шчырую зацікаўленасць у супрацоўніцтве з шырокім колам арганізацый, прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў і прыватных асоб, якія звязваюць сваю будучыню з Беларуссю і прыхільна ставяцца да роднай мовы беларусаў.

Мы звяртаемся да грамадзян краіны з вялікай просьбай аказаць фінансавую падтрымку дзейнасці Таварыства.

***Просім Вашы ахвяраванні дасылаць на адрас: 220005, Мінск, вул.Румянцава, 13 альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015212330014 у Мінскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).***

# ЗВАРОТ

## Кансультацыйнага савета апазіцыйных палітычных партый да грамадзян Рэспублікі Беларусь

**8 чэрвеня 2001 года г. Мінск**

На 9 верасня прызначаны першы тур выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Краіна прыйшла да іх у стане глыбокага эканамічнага, палітычнага і канстытуцыйнага крызісу. За час праўлення Лукашэнкі гадавая інфляцыя ў сярэднім складала 550%, а гэта азначае, што цэны кожны год раслі ў сярэднім больш чым у 5 разоў.

Эксперымент праваслаўнага атэіста па будаванні рынкавага сацыялізму з трэскам праваліўся. Чалавек, які мае ўласныя гонар і сумленне, ужо даўно сышоў бы з пасады і перадаў уладу мірным і дэмакратычным шляхам дасведчаным, адукаваным і сумленным грамадзянам Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, Лукашэнка ўсенародна абяцаў гэта зрабіць падчас мінулай выбарчай кампаніі.

Але ён усялякімі спосабамі чапляецца за ўладу і не жадае ісці на чэсныя дэмакратычныя выбары. Аб гэтым сведчаць так званыя выбары ў так званую Палату прадстаўнікоў, падчас якіх была нахабная татальная фальсіфікацыя, што і пацвердзілі наглядальнікі і аўтарытэтныя міжнародныя арганізацыі. Галоўным інструментам фальсіфікацыі сталі прымусовае датэрміновае галасаванне, недапушчэнне незалежных людзей у выбарчыя камісіі, непераадольныя перашкоды і запалохванне незалежных назіральнікаў.

Грамадзяне Беларусі заслугоўваюць справядлівых і чэсных выбараў. Для гэтага як мінімум неабходна:

— спыніць практыку папярэдняга галасавання без пісьмовага абгрунтавання матываў немагчымасці галасавання; любыя падштурхоўванні да датэрміновага галасавання лічыць злачынствам;

— уключыць ва ўсе выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый;

— забяспечыць умовы работы назіральнікаў у адпаведнасці з крытэрыямі АБСЕ.

Кансультацыйны савет апазіцыйных палітычных партый заклікае грамадзян Беларусі актыўна садзейнічаць правядзенню свабодных, дэмакратычных выбараў, паставіць рашучы заслон на шляху фальсіфікатараў народнага волевыяўлення.

ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ! ВАША ВОЛЯ — ВАШ ЛЁС!

# ОТЦЫ И ДЕТИ: ВМЕСТЕ – ЗА НОВУЮ БЕЛАРУСЬ!

До президентских выборов осталось 87 дней. Чтобы понять, какой выбор на них сделает наша молодежь, достаточно потусоваться на студенческих "пятачках", сходить на очередную игру КВН. Молодежь жаждет реформ. А с кем сегодня ветераны? Чего хотят от президентских выборов наши бабушки, дедушки, тети, тещи, наши соседи?

"Народная воля" начинает акцию под названием **"Отцы и дети. Вместе — за новую Беларусь!"**

Мы предлагаем высказаться по этому поводу будущим кандидатам в президенты, активистам, просто неравнодушным людям.

## Поговорите с бабушкой

**Мы не сомневаемся, что большинство молодых граждан страны на президентских выборах в сентябре сделает правильный выбор -- в пользу перемен, на благо всех и каждого. Но рядом с ними живут родственники — люди пожилого возраста. Многие из них все еще верят пустословам и лгунам от власти. Поговорите с ними по душам, молодые, помогите поверить в необходимости перемен. Только вместе мы победим!**

**Павел КОЗЛОВСКИЙ,**
**первый министр обороны Республики Беларусь.**

# Голосовать не помешает и картошка

*Некоторые политологи настаивают на том, что 9 сентября для президентских выборов выбрано совершенно не случайно: студенты уедут на картошку и голосовать не смогут (ну какие выборы на картошке!). Зато избирательно-активная и дисциплинированная часть населения — пенсионеры — обязательно явится и проголосует за нынешнего президента.*

*Насколько верно это мнение, можно судить по ответам студентов и студенток, к которым я обратилась с вопросом: "Где вы будете и чем собираетесь заниматься 9 сентября?"*

**Надежда, студентка 3 курса БГПА:**

— 9 сентября? Скорее всего в Минске.

**— Вы пойдете голосовать?**

— Да, непременно пойду. Не знаю еще, за кого буду голосовать, но точно пойду.

**Алексей, студент 1 курса БГПА:**

— А это какой день недели будет? Воскресенье? Тогда гулять пойду.

**— А на выборы пойдете?**

— Пойду. Надо же президента выбирать.

**Павел, студент 1 курса БГПА:**

— В Минске буду, как всегда. Буду учиться. А на выборы не пойду.

**— Почему?**

— Просто не хочу. Что я там забыл?

**Александра, студентка 3 курса БГУ:**

— Весь сентябрь я буду проходить практику в газете "Рэспубліка". На выборы пойду обязательно, хотя за кого голосовать, я еще не определилась. Я считаю, что долг каждого прийти и проголосовать, потому что от результатов выборов во многом зависит будущее Беларуси.

**Татьяна, студентка 2 курса Витебского технологического колледжа:**

— Возможно, я буду в Витебске, хотя полностью ручаться не могу. В прошлом году, например, мы провели весь сентябрь на картошке. Голосовать я, конечно же, буду. Думаю, что это можно будет сделать даже на картошке: все-таки выборы президента.

Добавить тут нечего. Разве только, что столичные вузы уже не практикуют массовые поездки на картошку (чего, впрочем, нельзя сказать о средних специальных учебных заведениях). Однако никакая картошка не помешает проголосовать тем, кто твердо решил опустить свой бюллетень в избирательную урну. И никакими увещеваниями не заставишь явиться на избирательный участок тех, кого не заботит дальнейшая судьба Беларуси. Хочется верить, что таких у нас будет как можно меньше.

**Татьяна КАРЮХИНА,**
**студентка-журналистка.**

*В воскресенье 10 июня состоялась, можно сказать, премьера на российском телеканале ОРТ четырех претендентов на пост президента Беларуси. В программе Владимира Познера "Времена" приняли участие Михаил Чигирь, Павел Козловский, Сергей Калякин, Семен Домаш, а также председатель ОГП Анатолий Лебедько. Как зритель могу сказать: выглядели оппоненты Лукашенко весьма и весьма привлекательно, и, что самое главное, убедительно. Также радует тот факт, что приглашение на участие пришло именно от Владимира Познера, одного из самых популярных и уважаемых журналистов России.*

*По приезде в Минск мы связались с участником передачи "Времена" — Михаилом Чигирем.*

## Михаил ЧИГИРЬ: "Лукашенко не получит публичную поддержку на выборах от высшего руководства России"

**— Михаил Николаевич, какие впечатления от поездки?**

— Чувствуется, в Москве сейчас существует очень высокая заинтересованность в том, что происходит в Беларуси. Импонирует также и то, что людям с разными мнениями в России дают возможность высказать в СМИ свои позиции: кроме нас, противиников Лукашенко, на пердаче дали высказаться и его стороннику — депутату госдумы России и союзного парламента Тихонову. А судить о том, прав ли политик или нет, должен зритель! Это абсолютно правильный подход, на мой взгляд.

**— Кто выиграл в вашем споре с Тихоновым?**

— Я думаю, что выиграли мы.

**— Ведущий Владимир Познер был, судя по всему, настроен к вам доброжелательно...**

— Да, это так. Кроме того, на ОРТ мы побеседовали с Сашей Любимовым. Он пообещал пригласить нас на одну из своих будущих передач.

**— Договаривались ли Вы по дороге в Москву о том, что собираетесь говорить?**

— Жестко мы, конечно, не согласовывали свои выступления. Мы ведь не знали, сколько нам дадут времени, о чем будут спрашивать. Но обсуждать возможные высказвания — мы, конечно, обсуждали...

**— Что происходило в кулуарах?**

— После съемок передачи мы серьезно поговорили с Тихоновым, ярым сторонником Лукашенко. Пытались его переубедить. Я думаю, что нам это удалось.

**— Будет ли Ваше участие в познеровской передаче каким-то знаком для руководства России, на Ваш взгляд?**

— То, что Лукашенко не получит публичную поддержку на выборах от высшего руководства России, нам ясно и понятно уже сейчас.

**— И последний вопрос: почему не поехал в Москву Владимир Гончарик?**

— Насколько я знаю, Владимиру Ивановичу очень хотелось принять участие во "Временах". Но он не смог поехать по каким-то личным причинам...

**Беседовал Александр СИЛИЧ.**

## Кошт падпіскі для грамадзян не змяніўся і застаўся на ўзроўні 2000 года. Напамінаем цэны:

**Для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс — 63222):**
**на адзін месяц — 1500 рублёў;**
**на квартал — 4500 рублёў;**
**на паўгоддзе — 9000 рублёў.**

**Для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадавой або квартальнай падпіскі (індэкс — 63429):**
**на адзін месяц — 1200 рублёў;**
**на квартал — 3600 рублёў;**
**на паўгоддзе — 7200 рублёў.**

**Ведамасная падпіска (індэкс — 63225):**
**на адзін месяц — 4000 рублёў;**
**на квартал — 12.000 рублёў;**
**на паўгоддзе — 24.000 рублёў.**

## Спіс гандлёвых кропак і кіёскаў "Белсаюздруку", у якіх можна аформіць падпіску:

| | | |
|---|---|---|
| Участак падпіскі "Белсаюздрук" | вул.Валадарскага, 16, п.302 | 227-88-41 |
| Пункт прыёму падпіскі | вул.Жукоўскага, 5, корп.1 | 224-32-03 |
| Пункт прыёму падпіскі | пр-т Ф.Скарыны, 113 | 284-22-91 |
| Пункт прыёму падпіскі | вул.Раманаўская Слабада, 9 | 220-83-04 |
| Пункт прыёму падпіскі | вул.А.Кашавога, 8 | 230-29-20 |
| Пункт прыёму падпіскі | пр-т Машэрава, 51/1 | 223-80-43 |
| Магазін №1 | вул.Жукоўскага, 5 | 224-03-76 |
| Магазін №2 | пр-т Ф.Скарыны, 44 | 284-83-59 |
| Магазін №3 | пр-т Ф.Скарыны, 76 | 232-46-23 |
| Магазін №4 | вул.Леніна, 15 | 227-11-92 |
| Магазін №6 | вул.Філімонава, 1 | 235-63-11 |
| Магазін №7 | вул.Я.Коласа, 69 | 228-30-20 |
| Магазін №8 | вул.Сурганава, 40 | 232-45-10 |
| Магазін №9 | пр-т Ракасоўскага, 140 | 247-30-15 |
| Магазін №11 | пр-т Пушкіна, 77 | 255-80-71 |
| Магазін №12 | вул.Кіжаватава, 80 | 278-77-61 |
| Магазін №13 | вул.Каліноўскага, 82, корп.2 | 264-06-42 |
| Магазін №14 | вул.Валадарскага, 22 | 227-75-55 |
| Магазін №15 | вул.Танкавая, 16 | 223-82-39 |
| Магазін №16 | вул.В.Харужай, 24 | 234-27-25 |
| Магазін №17 | вул.Някрасава, 35 | 231-03-28 |
| Магазін №18 | станцыя метро "Плошча Перамогі" | 284-31-06 |
| Магазін №19 | пр-т Машэрава, 51, корп.1 | 223-81-66 |
| Магазін №20 | вул.Ясеніна, 1, | 271-87-21 |
| Магазін №21 | станцыя метро "Пушкінская" | 255-57-20 |
| Магазін №22 | вул.Ілімская, 10, корп.2 | |
| Магазін №23 | вул.Славінскага, 39 | 284-36-33 |
| Магазін №24 | вул.Жылуновіча, 31 | 245-05-74 |
| Магазін №25 | вул.К.Маркса, 21 | 227-08-52 |
| Кіёск №2 | Лінгвістычны універсітэт, вул.Захарава, 21 | |
| Кіёск №18 | Тэхналагічны універсітэт, вул.Свярдлова, 13/4 | |
| Кіёск №34 | г-ца "Мінск", пр-т Ф.Скарыны, 11 | |
| Кіёск №38 | Педагагічны універсітэт, вул.Савецкая, 18 | |
| Кіёск №78 | г-ца "Юбілейная", пр-т Машэрава, 19 | |
| Кіёск №95 | Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, вул.Мяснікова, 39 | |
| Кіёск №138 | станцыя метро Я.Коласа, выхад да Акадэміі фізвыхавання | |
| Кіёск №187 | г-ца "Беларусь", вул.Старажоўская, 15 | |
| Кіёск №198 | Эканамічны універсітэт | |
| Кіёск №209 | Прахадная МАЗа, вул.Сацыялістычная, 2 | |
| Кіёск №228 | Універсітэт культуры, вул.Рабкораўская, 17 | |
| Кіёск №232 | МЗХ, пр-т Машэрава | |
| Кіёск №245 | Бальніца хуткай дапамогі, вул.Кіжаватава, 56 | |
| Кіёск №259 | Мінскі дзяржаўны гандлёвы каледж, вул.Усходняя, 183/43 | |
| Кіёск №262 | г-ца "Планета", пр-т Машэрава, 31 | |
| Кіёск №298 | пр-т Машэрава, 75/1 | |
| Кіёск №302 | 9-я бальніца | |
| Кіёск №313 | Слабодскі праезд, 24 | |

## У разгары падпіска на трэці квартал

**У жыцці краіны гэта лёсавызначальны перыяд — прэзідэнцкія выбары. Не застаньцеся без незалежнага інфарматара і каментатара — "Народнай волі".**

*Паспяшайцеся з падпіскай!*

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ______

на 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** ______ (індэкс выдання)

Народная Воля

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб. Колькасць камплектаў ______

на 2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

